



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

30 кастрычніка 2015 года №44 **(1070)**


## Новы расклад руху цягнікоў

старонка 19

## Радзільню ў Вілейцы збіраюцца перанесці

старонка 2

## Рыхтуем машыну да зімы



старонка 5

## Дзяцей у бальніцы займалі навуковымі эксперыментамі

старонка 6

# Наш Агінскі

## АЛЕ калі мы перастанем дзяліць яго з суседзямі, зразумеем еўрапейскі маштаб постаці Міхала Клеафаса Агінскага

- Інтэрв'ю з Адамам Мальдзісам
- 12 фактаў пра асобу Агінскага



старонкі 20-21

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

## Ля Ручавых рэканструююць меліярацыйны аб'ект

ВІЛЕЙКА

**Нашага чытача зацікавіла, што капаюць непадалёку ад Вілейкі, ля вёскі Ручавыя.**

Тут вядзецца рэканструкцыя меліярацыйнага аб'екта "Суворава" таварыства "Вілейскі райаграсэрвіс", патлумачыў галоўны інжынер прадпрыемства меліярацыйных сістэм **Андрэй Купрэйчык**.

– Рэканструкцыя была неабходная, бо аб'ект забалоціўся. Тэхніка не магла паўсюдна прайсці, каб араць ці касіць, – тлумачыць **Андрэй Купрэйчык**. – Атрымлівалася так: дзе тэхніка можа заехаць, дзе не. І ў выніку, дзе зямля апрацаваная, дзе не – кавалкамі. Ды і меліярацыйныя каналы бабры запрудзілі.

Каналы ачышчаюць ад заглейвання. Потым правядуць прамыўку старога дрэнажу. Дзе неабходна, укладуць новы дрэнаж з поліэтыленавых труб.

Ля Ручавых – гэта другі пускавы комплекс аб'екта. Першы – ад газавай запраўкі да "кальца" на дарозе Мінск-Маладзечна-Нарач. Там работы амаль завершаныя.

Агульная плошча рэканструкцыі аб'екта складае 125 гектараў. Вядуцца работы за кошт сродкаў раённага бюджэту.

Пачалі іх у жніўні. Завяршыць плануюць да канца года.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ПАМЯЦЬ

## Пройдзе аўтапрабег

ВІЛЕЙКА

**Ён адбудзецца на Вілейшчыне ў суботу, 31 кастрычніка.**

Прымеркаваны да дня заканчэння Першай сусветнай вайны (11 лістапада).

Сёлета аўтапрабег звязаны са 100-годдзем вызвалення Вілейкі і Вілейшчыны ад нямецкіх войскаў у ходзе Вілейскай аперацыі і ліквідацыі Свянцянскага прарыву.

Аўтапрабег стартуе з цэнтральнай плошчы Вілейкі (стаянка ля "Беларусбанка"). Пачатак – а 11:00.

Упершыню ён пройдзе па месцах, дзе ўстанавілі новыя помнікі і памятныя знакі.

Удзельнікі наведаюць браму-капліцу пры ўваходзе на гарадскія могілкі па вуліцы 1 Мая ў Вілейцы, вёскі Любкі, Дваранц і Іжа Іжанскага сельсавета, вёску Рускае Сяло Нарацкага сельсавета, лазарэтныя могілкі 29 пяхотнай дывізіі каля вёскі Забродзе. Таксама агледзяць музейныя экспазіцыі ў Барыса-Глебскай капліцы на беразе Нарачанкі.

Працягласць маршруту складзе 67 кіламетраў.

Запрашаюць усіх ахвотных на сваіх аўтамабілях. Пра ўсё гэта паведамілі ў Фондзе памяці Першай сусветнай вайны "Крокі".

**Аддзел інфармацыі.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Міліцыя праверыць начныя клубы

МАЛАДЗЕЧНА

**Акцыя "Цвярозы кіроўца" будзе доўжыцца ад 30 кастрычніка да 2 лістапада. Пра гэта паведаміў дзяржаўтаінспектар Сяргей Бартош.**

Рэйдавыя групы супрацоўнікаў ДАІ будуць вышукваць правапарушальнікаў. Супрацоўнікі міліцыі таксама правядуць маніторынг месцаў масавага адпачынку: начныя клубы, бары.

Сёлета за дзевяць месяцаў супрацоўнікі аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС затрымалі больш за 260 нецвярозых кіроўцаў. З іх 29 – паўторна цягам года. Транспартныя сродкі гэтых парушальнікаў паставілі на штрафстаянку.

Міліцыя нагадвае, што ў адносінах да нецвярозых кіроўцаў прымяняюць самыя строгія меры: пазбаўленне права кіравання ўсімі відамі транспарту на тры гады, а таксама штраф да 100 базавых велічынь.

За паўторнае кіраванне ў нецвярозым стане цягам года прыцягваюць да крымінальнай адказнасці. Пры гэтым прадугледжаная спецыяльная канфіскацыя транспартнага сродку, незалежна ад таго, хто з'яўляецца яго ўласнікам.

**Аддзел інфармацыі.**

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Радзільню ў Вілейцы збіраюцца перанесці

## Праект рэканструкцыі корпуса, што пужае віляйчан, праходзіць экспертызу

ВІЛЕЙКА

**У апытанні "Што б вы хацелі, каб змянілася ў Вілейцы да "Дажынак", і каментарах да яго многія віляйчане называлі радзільню.**


Фота Ігара МАРОЗА.

Радзільня ў Вілейцы, пабудаваная ў канцы 1930-х.

"Трэба, каб улады звярнулі ўвагу на радзільню", "Адзін знешні выгляд пужае", "Радзільны дом! Каля яго праходзіш, прама жудасна становіцца, а пасля дажджу ён такі змрочны, як з фільмаў жахаў".

І дадавалі: "А гэта ж месца, дзе нараджаюцца нашы любімыя і доўгачаканыя дзеці".

Ці будзе што рабіцца ў будынку, дзе месціцца радзільня? На гэта пытанне адказаў намеснік галоўнага доктара па эканамічных пытаннях Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы **Генадзь Мержва.**

Ён патлумачыў, што абнаўляць фасад будынка зараз немэтазгодна. Бо ўжо гатовы праект рэканструкцыі корпуса, у якім знаходзяцца радзільнае, тэрапеўтычнае і кардыялагічнае аддзяленні.

Рэканструкцыя чакаецца грунтоўная.

– Ад будынка застануцца толькі сцены, – кажа Генадзь Мержва. – Згодна з праектам, прадугледжана зрабіць новы дах, фасад будзе атынкаваны і пафарбаваны, уставяць новыя вокны. Заменяць усе сеткі: водаправод, каналізацыю. Унутраныя памяшканні зробяць згодна з санітарна-эпідэміялагічнымі патрабаваннямі. Таксама ў будынку павінен з'явіцца ліфт.

### Радзільню мяркуюць перанесці ў іншы будынак

Некаторым чытачам таксама не даспадобы месца, дзе месціцца радзільня. Сярод іх і віляйчанка **Ніна Круцько**. Яна двойчы нараджала дзяцей у гэтым радзільным аддзяленні і лічыць так:

– Увогуле, гэта праста "ідэальнае" месца для радзільні: побач трупярня, шапік рытуальных паслуг… Асабліва назалялі машыны "хуткай дапамогі", спаць было немагчыма.

Дык вось, па праекце пасля рэканструкцыі ў корпусе застануцца два аддзяленні: тэрапеўтычнае і кардыялагічнае. Радзільнае тады плануюць перанесці ў іншы будынак цэнтральнай раённай бальніцы.

Цяпер праект праходзіць экспертызу ў вобласці. Калі ж пачнецца рэканструкцыя, пакуль дакладна невядома. Усё залежыць ад фінансавання.


Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by

ВЫДАННІ

## Краязнаўца з Мядзельшчыны стаў сааўтарам кнігі

МЯДЗЕЛ

Выйшла з друку кніга "Мы з Іманам жывём на зямлі Беларусі: беларускі татарын **Якуб Якубоўскі**".

Прысвечаная яна жыццёваму шляху і творчасці географа, гісторыка, філолага, энцыклапедыста, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР, актыўнага ўдзельніка адраджэнскага руху беларускіх татар у 1990-х гадах Якуба Якубоўскага. Ён – аўтар гімна беларускіх татараў, радок якога прыведзены ў загалоўку кнігі. Якубу Якубоўскаму прысвяціў верш "Беларускія татары" **Рыгор Барадулін**.

Укладальнікамі выдання сталі краязнаўца з вёскі Камарова на Мядзельшчыне **Іван Драўніцкі** і ўдава Якуба **Таццяна Якубоўская**.

У кнізе змясцілі нарысы і ўспаміны родных, сяброў і паплечнікаў, працы навукоўца і яго допісы. Тыраж выдання – 299 экземпляраў.

Якуб Якубоўскі нарадзіўся ў вёсцы Камаі на Пастаўшчыне. Сярод іншага ён даследаваў возера Нарач. Тут збіраў матэрыял для кандыдацкай дысертацыі, працаваў на Нарацкай гідраметэаралагічнай станцыі. Пісаў артыкул пра Нарач для Беларускай Савецкай Энцыклапедыі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Іман – у ісламе вера і неад'емная частка мусульманскай рэлігіі.

● ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# З дрэў здымаюць кару, каб яны загінулі

МАЛАДЗЕЧНА

**Чытачы “РГ” занепакоеныя тым, што нехта наўмысна псуе дрэвы, каб іх пасля спілавалі.**

У двары №9 па вуліцы Касманаўтаў хтосьці здымае палосы кары на 5-10 сантыметраў каля кораня. Пасля гэтага дрэвы могуць засохнуць, і ЖРЭУ давядзецца іх спілоўваць.

Частка жыхароў падазрае ў гэтым некаторых жыхароў з суседняга дома №11, які месціцца насупраць. Нашы чытачы абураюцца:

– Як могуць замінаць дрэвы? Калісьці жыхары №9 адкуль маглі прывозілі саджанцы і высаджвалі ў сваім двары. Многіх з тых, хто садзіў дрэвы, ужо няма сярод жывых, бо дом здалі ў 1969 годзе. Для іх дзяцей і ўнукаў гэта памяць. А цяпер такім варварскім чынам губяць ліпы, клёны і бярозы, нехта іх псуе. Сёння яны псуюць дрэвы, а што ім будзе замінаць заўтра? Мы заклікаем не заставацца раўнадушнымі да гэтага варварства і вандалізму над прыродай горада.

## Лёс дрэў вырашаць вясной

У ЖРЭУ №6 пра гэту праблему ведаюць. Майстар **Вольга Гутнік** пацвердзіла, што жыхары звярнуліся і да іх. Яна патлумачыла, што камунальнікі былі на месцы. Відаць, што падпілы старыя, ужо засохлыя. Пакуль дрэвы жывыя і пілаваць іх няма прычыны. Калі яны за зіму ссохнуць, то давядзецца спілаваць.

– Мы пыталіся ў жыхароў, ці бачылі яны, хто шкодзіць дрэвы, але ніхто не дапамог знайсці адказнага, – распавядае майстар. – Хутчэй за ўсё, цень ад гэтых дрэў замінае камусьці з жыхароў. Але за пашкоджанне дрэў прадугледжаная адказнасць, тым больш што яны месцяцца на тэрыторыі горада. Нам самім даводзіцца афармiць мноства дакументаў, каб пасля прыехала камісія, і толькі пасля гэтага, пры неабходнасці, дрэва, якое можа пагражаць бяспецы, можна было спілаваць.

Майстар удакладніла, што вясной зелянгас спілоўваў толькі дрэвы ў аварыйным стане, ад якіх пры моцным ветры маглі б адарвацца сухія галінкі. Лёс жа дрэў са знятай карой вырашаць па вясне.

## За шкоду дрэва – да 9 мільёнаў

У юрыдычным сектары “Камунальніка” патлумачылі адказнасць за пашкоджанне дрэў ці іншых насаджэнняў. Яе прадугледжвае артыкул 15.22 Адміністрацыйнага кодэкса “Незаконнае знішчэнне ці пашкоджанне дрэў і кустоў ці іншай раслінасці”. За гэта фізічныя асобы могуць атрымаць штраф ад пяці да 50 базавых велічынь (ад 900 тысяч да 9 мільёнаў рублёў).

**Зоя ХРУЦКАЯ.**





Фота забяспечана чытачамі “РГ”.

Пашкоджаныя дрэвы па вуліцы Касманаўтаў. За шкоду пагражае да дзевяці мільёнаў рублёў штрафу.

● ЗДАРОЎЕ

# Яшчэ ў дзвюх пробах грыбоў на Вілейшчыне знайшлі перавышэнне радыенуклідаў

ВІЛЕЙКА

**У мінулым нумары паведамлялі, што перавышэнне радыенуклідаў знайшлі ў адной пробе курачак з Вілейшчыны. Да іх дадаліся яшчэ два выпадкі.**

За мінулы тыдзень у лабараторыю Вілейскага раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі прынеслі на праверку 12 проб грыбоў і адну ягад.

Грыбы прыносілі і марынаваныя, і салёныя. З імі – усё ў парадку.

А перавышэнне ўтрымання радыенуклідаў знайшлі ў дзвюх пробах свежых грыбоў-курачак. Іх збіралі каля вёсак Шылавічы Асіпавіцкага сельсавета і Папоўцы Нарочкага сельсавета, расказала доктар-гігіеніст раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Алена Ліхачэўская**.

У першым выпадку перавышэнне радыенуклідаў было ў два разы, у другім – у паўтара.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

● КОНКУРСЫ

# Уладары вёскі збіралі бульбу на хуткасць

МЯДЗЕЛ

У Крывічах на Мядзельшчыне 23 кастрычніка прайшоў раённы этап сямейнага сельскагаспадарчага праекта “Уладар вёскі”.

Удзельнічалі пяць сем’яў, якія прадстаўлялі розныя сельсаветы. Паказвалі візітоўку “Вітаем па-беларуску”, выступалі ў ролі дрывасекаў, вязалі венікі і запрагалі каня. У сельскай спартыўнай эстафеце на хуткасць збіралі бульбу.

Перамагла сям’я **Яўгена** і **Святланы Пальцавых** з Крывіцкага сельсавета. Яны гадуюць траіх дзяцей.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



ЛІЧБА НУМАРА

Інфаграфіка Галіны СІНІЦЫ.

**12,5** трыльёна рублёў – на столькі грошай ў сярэднім за месяц насельніцтва Беларусі купляе прадуктаў

У разліку на чалавека прыходзіцца каля **1,3** мільёна рублёў у месяц

Паводле Белстата

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 22.10 | 29.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 17 252,00 | **17 358,00** |
| Еўра | 19 597,00 | **19 189,00** |
| Злоты | 4 624,32 | **4 488,29** |
| Расійскі рубель | 275,25 | **273,17** |
| Грыўня | 781,58 | **760,90** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ” у Маладзечне 28.10** | | |
| Еўра | 19600/19850 | **19120/19350** |
| Долар ЗША | 17220/17450 | **17320/17500** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 21.10 | 28.10 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 139 900 | **159900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26 800 | **26800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 75 000 | **75000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 38 900 | **39800** |
| Селядзец, 1 кг | 52 000 | **54000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 121 000 | **108000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13 500 | **13500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 16 500 | **16500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 13 000 | **13000** |
| Алей “Дзіўны”, 1 л | 23 500 | **23500** |
| Маянэз, 200 г | 4 500 | **4500** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 14 500 | **14500** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 39 500 | **39500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13 000 | **13000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | **5900** |
| Часнок, 1 кг | 47 900 | **47900** |
| Капуста, 1 кг | 3 500 | **3500** |
| Морква, 1 кг | 5 900 | **5900** |
| Баклажаны, 1 кг | 13 900 | **18900** |
| Лімоны, 1 кг | 29 900 | **29900** |
| Апельсіны, 1 кг | 29 500 | **29500** |
| Мандарыны, 1 кг | 28 500 | **34900** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 29 500 | **26500** |
| Ківі, 1 кг | 29 500 | **26500** |
| Буракі, 1 кг | 5 900 | **5900** |
| Памідоры, 1 кг | 16 900 | **16900** |
| Агуркі, 1 кг | 19 900 | **29900** |
| Перац, 1 кг | 13 500 | **14900** |
| Вінаград, 1 кг | 24 900 | **24500** |
| Бананы, 1 кг | 19 900 | **19900** |
| Кавун, 1 кг | 6 000 | **7500** |
| Дыня (“тарпеда”), 1кг | - | **13000** |
| Хурма, 1 кг | 38 500 | **29900** |
| Памела, 1 кг | 34 900 | **34900** |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | **12900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 22 500 | **29500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55000** |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | **2500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60000** |

ПСІХОЛАГ РАІЦЬ

## Крымінальныя навіны – гэта вострыя ўражанні, якіх не хапае ў жыцці

Псіхолагі сцвярджаюць, што крымінальныя навіны пра забойствы з задавальненнем чытаюць тыя, каму ў жыцці не хапае адрэналіну.

Кожны чалавек уяўляе ў рэальнасці тое, пра што чытае. А здарэнні – гэта выдовішча, якое дае ўсплёск адрэналіну і вострых уражанняў. Гэта эмоцыі, якіх нам не хапае ў звычайным жыцці.

Таму крымінальныя гісторыі чытае найбольшая колькасць людзей. У гісторыях, дзе ёсць добры канец, напрыклад, злачынцу арыштавалі, мы знаходзім упэўненасць у тым, што справядлівасць ёсць. Так атрымліваем станоўчыя эмоцыі, змяншаецца ўзровень трывогі.

Зусім іншая рэакцыя, калі злачынцу не знайшлі. Такія гісторыі наадварот даюць адчуванне страху, трывогі. Таму людзям больш падабаюцца завершаныя гісторыі, дзе зло пакаранае.

Існуе меркаванне, што крымінальныя навіны наганяюць страх. Гэта сапраўды так, у чалавека спрацоўвае інстынкт самазахавання. Страх з'яўляецца і тады, калі мы ў небяспецы. Мы бачым страшнае і ў нас спрацоўвае інстынкт абароны. Але адчуванне небяспекі прыводзіць людзей у тонус.

Калі адбываецца нешта страшнае, людзі несвядома спяшаюцца падзяліцца гэтай навіной. Гэта робіцца найперш для таго, каб зменшыць узровень трывогі.

Акрамя таго, калі ты папярэджваеш іншага чалавека пра небяспеку, ты знімаеш уласную трывогу адносна таго, што свет непрадказальны, унутры нараджаецца адчуванне, што сітуацыя не такая страшная, усё больш-менш пад кантролем.

Трэба разумець, чым большы ўзровень страху ў вас, тым большы ўзровень агрэсіўнасці. У стане страху мы знаходзімся ў напружанні. А знімаем гэта праз раздражненне, злосць.

**Таццяна ЖДАНАВА, псіхолаг.**

ВЫШУК

## Знік 77-гадовы мужчына

СМАРГОНЬ

9 верасня мужчына каля 18:00 выйшаў з дому ў вёсцы Гаўці ў невядомым накірунку, і да сённяшняга дня яго месцазнаходжанне невядомае.



Прыкметы зніклага **Мікалая Паўлавіча Горбава:** на выгляд 75-80 гадоў, рост каля 170 сантыметраў, сярэдняга целаскладу, твар прамавугольны, смуглы, валасы сівыя, кучаравыя, на абедзвюх нагах, вышэй калена, маюцца татуіроўкі з выявай хакеіста з клюшкай.

Быў апрануты ў шэрыя спартыўныя штаны, сіні світар з гузікам, белыя красоўкі.

Смаргонскі РАУС звяртаецца з просьбай да грамадзян, якія валодаюць якой-небудзь інфармацыяй, паведаміць пра гэта па тэлефоне **8-01592-42-0-41**.

**Па інфармацыі Смаргонскага РАУС.**

КРЫМІНАЛ

## Купляў аўтамабілі ў растэрміноўку, а грошы не аддаваў

АШМЯНЫ

У здзяйсненні серыі махлярстваў падазраюць жыхара Ашмянскага раёна.

33-гадовы мужчына купляў у даверлівых грамадзян аўтамабілі ў растэрміноўку. Але ў вызначаны час грошы не вяртаў, а потым і зусім уцёк за межы нашай краіны.

Цяпер устанавілі тры факты яго супрацьпраўнай дзейнасці.

Начальнік Ашмянскага РАУС **Дзмітры Уляшка** расказвае: "Падазраваны спрытна ўваходзіў у давер да людзей і пад распіску браў у іх аўтамабілі. Кліентаў шукаў па аб'явах у друку і інтэрнэце.

Грамадзяне нават не падазравалі, што перад імі махляр. У афёрах актыўную дапамогу мужчыну аказвала яго жонка, дзеянням якой неўзабаве дадуць прававую ацэнку. Усяго падазраваны завалодаў трыма аўтамабілямі марак "Фольксваген-Транспарцёр", "Сеат-Таледа" і "Аўдзі А4".

Крымінальную справу ўзбудзілі за махлярства.

**Ігар БЕЛАЗЁРАЎ, uvd.grodno.by.**




Сёлета падлеткі не адзін раз траплялі ў міліцыю за бойкі.

КРЫМІНАЛ

# "Стрэлка" скончылася разборкамі ў міліцыі

МАЛАДЗЕЧНА

**Крадзяжы і хуліганства, угоны і рабаванні, наркотыкі і парнаграфія: падлеткі з якіх дзесяці навучальных устаноў раёна сёлета трапілі ў міліцыю? Пра падлеткавую злачыннасць, якая працягвае расці, гаворыць начальнік інспекцыі па справах непаўналетніх Маладзечанскага РАУС Сяргей Шытыка.**

Сёлета цягам дзевяці месяцаў на Маладзечаншчыне зарэгістравалі 37 злачынстваў з удзелам непаўнагадовых. За аналагічны перыяд 2014 года іх было 20. А за ўвесь 2013 год – 13. За два гады падлеткавая злачыннасць вырасла амаль утрая.

Ніжэй прыведзеныя толькі некалькі сёлетніх здарэнняў.

### "Стрэлка"

Двое навучэнцаў політэхнічнага каледжа не змаглі вызначыць без кулакоў, хто лепшы. Дамовіліся, што кожны прывядзе на "стрэлку" сваю каманду.

Сутычка адбылася 21 чэрвеня каля гадзіны ночы. Адзін прывёў з сабой двух сяброў, другі – пяцярых. У выніку трое разбілі шасцярых.

Завадатар большай каманды з пройгрышам не пагадзіўся і прывёў яшчэ шасцярых. Але трое збілі і дванаццаць.

Тады пацярпелыя звярнуліся ў міліцыю, і трох пераможцаў "стрэлкі" судзілі.

### Збілі, абрабавалі і абакралі

Каля гадзіны ночы 4 мая двое хлопцаў, 16 і 18 гадоў, сустрэлі ў дварах па Скарыны мужчыну. Завязалася спрэчка, якая перарасла ў патасоўку.

Пакуль біліся, у яго з рукі сарвалі гадзіннік. Калі мужчына ўпаў без прытомнасці, у яго забралі тэлефон і запальнічку.

Хлопцам пашанцавала – яны трапілі пад амністыю. Але сёлета ў кастрычніку абодва зноў апынуліся ў міліцыі.

На гэты раз адзін з іх трапіў за тое, што біў у маладзечанскім парку ліхтары.

Другі, 16-гадовы, – за збіццё чалавека. Здарэнне адбылося днём 11 кастрычніка ў Маладзечне каля дома №44 па Вялікім Гасцінцы.

Трое хлопцаў пачалі збіваць двух мужчын. Адзін з пацярпелых паспеў збегчы. Другому дасталося за дваіх: яму праламалі чэрап. 27-гадовага пацярпелага на "хуткай" адвезлі ў рэанімацыю. Ён выжыў.

### Захоўваў парнаграфію

Цягам двух гадоў у 18-гадовага маладзечанца на старонцы ў сацсетцы ў адкрытым доступе змяшчалася пяць відэа з парнаграфіяй. Яму прысудзілі штраф.

**Настасся РОЎДА.**



### Аналіз злачынстваў па відах

| Віды злачынстваў | 2015 г. | 2014 г. |
|---|---|---|
| Крадзеж | 17 | 12 |
| Хуліганства | 8 | 2 |
| Угон транспарту | 2 | 1 |
| Рабаванне | 3 | 1 |
| Разбой | 2 | - |
| Наркотыкі | 1 | 2 |
| Махлярства | 1 | |
| Падробка дакументаў | 1 | |
| Знішчэнне маёмасці | - | 1 |
| Цяжкія цялесныя пашкоджанні | - | 1 |
| Захоўванне парнаграфіі | 1 | - |
| Неданясенне аб злачынстве | 1 | - |

### Аналіз па навучальных установах

| Навучальная ўстанова | Колькасць асоб/колькасць злачынстваў, якія яны здзейснілі 2015 г. | 2014 г. |
|---|---|---|
| СШ №2 | 1/5 | |
| СШ №5 | 1/1 | |
| СШ №8 | 1/3 | |
| СШ №12 | 1/4 | |
| СШ №14 | 1/1 | |
| Маладзечанскі дзяржаўны каледж | 11/14 | 5/9 |
| Беразінскі аграрна-тэхнічны прафесійны ліцэй | - | 1/2 |
| Радашкавіцкая СШ | - | 1/1 |
| Красненская СШ | 1/3 | 1/1 |
| Чысцінская СШ | 1/1 | |
| Радашкавіцкая школа-інтэрнат | 2/3 | |
| Маладзечанскі дзяржаўны політэхнічны каледж | 5/5 | |

# Рыхтуем машыну да зімы

**Зіма – самы складаны час для машыны. Усе слабыя месцы вашага жалезнага сябра становяцца найбольш уразлівымі. У першую чаргу падчас падрыхтоўкі машыны да зімы звярніце ўвагу на іх.**




З пачаткам першых замаразкаў актуальным становіцца пытанне замены гумы. Згодна з правіламі дарожнага руху, яна павінна стаяць на машыне ад 1 снежня і да 1 сакавіка. Таму варта паклапаціцца пра замену гумы загадзя, каб пазбегнуць штрафу і засцерагчы сябе ад аварыі. Штраф за тое, што на машыне няма зімовай гумы, – 0,5 базавай велічыні (90 тысяч рублёў).

## Чым адрозніваецца гума

– Надвор’е ў розных краінах зімой рознае, таму ў залежнасці ад гэтага і існуюць розныя тыпы гумы, – адзначае дырэктар шынамантажу ў Маладзечне **Дзмітры Губар**.

Раскажам пра асноўныя ўласцівасці кожнай гумы. Пры тэмпературы паветра ніжэй за +5 летняя гума губляе сваю эластычнасць, машына менш устойлівая на дарозе. Таму з першымі замаразкамі нярэдка можна пачуць больш навін пра аварыі, так званы дзень бляхара.

– У складзе зімовай гумы больш каўчуку, таму яна не перамярзае, не губляе сваёй эластычнасці, нават пры вельмі нізкіх тэмпературах машына больш устойлівая на дарозе, – расказвае спецыяліст. – Некаторыя аўтааматары ставяць усесезонную і думаюць, што на ёй можна ездзіць у любую пару года. Аднак гэта не зусім так: і па хімічным саставе, і па рысунку пратэктара яна не падыходзіць для спёкі і для моцнага марозу. Яе можна параўнаць з дэмісезоннымі ботамі – у невялікі холад адчуваеш сябе камфортна, аднак зімой у іх змерзнеш. Калі на дарозе снежная каша, на такой гуме машына больш устойлівая ў параўнанні з летняй гумай, аднак не засцерагае цалкам ад няшчаснага выпадку.

Шыпаваная гума, па меркаванні спецыяліста, найбольш падыходзіць для Скандынаўскіх краін, дзе многа снегу і лёду. У нашай краіне ў апошнія гады снегу няммнога, дарогі чысцяць, пасыпаюць спецыяльнымі сродкамі. А на чыстым асфальце павялічваецца тармазны пуць.

Калі ў вас няма магчымасці купіць новы камплект гумы, можна скарыстацца бюджэтным варыянтам – купіць дзве новыя гумы, а не чатыры. Але варта паставіць іх на заднія колы.

– Спераду ў большасці аўто знаходзіцца рухавік, таму пярэднія колы больш нагружаныя, маюць большае счапленне з дарогай. Заднія ж колы менш нагружаныя. Таму варта паставіць на заднія колы новую гуму, каб счапленне з дарогай было большае, – раіць спецыяліст.

## Балансіруем колы грануламі

Пасля замены гумы, варта адбалансіраваць колы. Калі гэтага не зрабіць, у машыне падчас руху можа з’явіцца вібрацыя. Яна прыводзіць да таго, што зношваюцца дэталі падвескі, колы маюць меншае счапленне з дарогай. Таму аўто больш складана кіраваць, павялічваецца тармазны шлях.

Дзмітры Губар раіць балансіраваць колы праз кожныя дзве-тры тысячы кіламетраў прабегу.

– Мы напампоўваем колы паветрам, але лепш азотам, – расказвае спецыяліст. – У паветры ёсць сумесі, напрыклад, азот, кісларод, вуглякіслы газ, вадарод, таму, калі тэмпература паветра паднімаецца альбо павышаецца, змяняецца і ціск у шынах. Калі кола пампуюць азотам, то яно не рэагуе на змяненне тэмпературы паветра.

У шынамантажы Дзмітрыя Губара пачалі тэставаць новы від балансіроўкі – грануламі. Замест грузікаў, якія выкарыстоўваюць пры звычайнай балансіроўцы, у пакрышку засыпаюць гранулы. Яны размяркоўваюцца па ўнутранай частцы гумы падчас руху.

**Балансіроўка грануламі змяншае знос гумы больш чым на 25%, змяншае расход паліва да 8%, павышае ўстойлівасць машыны на дарозе, ліквідуе вібрацыю кола і падвескі.**

– У Польшчы гэты метад даўно выкарыстоўваюць, – дзеліцца досведам спецыяліст. – Мы толькі пачынаем пераймаць гэты досвед. Пакуль гранулямі балансіруем вялікагрузныя машыны: пазадарожнікі, грузавікі, аўтобусы, мікрааўтобусы. Гэты від балансіроўкі падыходзіць не для ўсіх машын.

Абавязкова праверце ціск у шыне. З пачаткам халадоў ён падае. Калі ў шыне маленькі ціск, зношваюцца краі пратэктара. Калі шына перапампаваная, то зношваецца сярэдняя частка пратэктара. Нармальны ціск у большасці выпадкаў – 2-2,2 атмасферы.

**Галіна СІНІЦА.**
**Фота pngimg.com.**

ВЫСТАВЫ

# Фотааматар заінтрыгаваў віляйчан назвай выставы

ВІЛЕЙКА

**На адкрыцці персанальнай фотавыставы Аляксандра Батуры 24 кастрычніка ў многіх наведнікаў узнікла пытанне: "Чаму назвалі яе "Уздоўж берагоў Вілейскага ..."?**

Можна ж было дапісаць "вадасховішча", бо якраз яму і прысвечаная выстава.

– Так зрабілі, каб заінтрыгаваць людзей, – адказвае навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**. – Звычайна тэмы фотавыстаў у музеі акрэсліваем назвай. А тут захацелі зрабіць па-іншаму. Таму што на выставе можна пабачыць многа розных праяў прыроды на вадасховішчы: гэта захады і світанкі, туманы і карчы, восень і вясна.

Так што, наведнікі самі маглі дадумаць назву. Скажам, да серыі зімовых здымкаў прыдумалі такую: "Уздоўж берагоў Вілейскага айсберга".

У выставачнай зале імя Сілівановіча паказваюць больш за 40 прац фотааматара з Мінска. І толькі на адным са здымкаў ёсць людзі. І то на прыродзе – рыбу ловяць.

### Параўновае ваду з тварам жанчыны

Для Аляксандра Батуры вадасховішча асабліва прыгожае восенню, калі паказваюцца водмелі, золата восені адлюстроўваецца ў вадзе.

Для фотааматара вадасховішча шматграннае. Калі ён прыязджае, прагульваецца ўздоўж берагоў, яно штораз іншае.

– Аляксандр Батура параўноўвае ваду з тварам жанчыны: наколькі яна зменлівая натура, так і вадасховішча. Калі здымае прыроду, прадумвае кожны кадр. Кажа, прырода – яна сама мастак. Каб мастаку мастака адлюстраваць, трэба адносіцца вельмі пільна, – расказала Надзея Аўдзей.

Пабачыць выставу можна да 20 лістапада.

**Даведка "РГ". Аляксандр Батура** – фотааматар. Нарадзіўся ў горадзе Тара, Расія. Скончыў БДУ ў 1979 годзе. З'яўляецца ўдзельнікам шматлікіх персанальных і калектыўных фотавыстаў, быў пераможцам і лаўрэатам некалькіх фотаконкурсаў, двойчы станавіўся пераможцам фотаконкурсу "Гэта твая зямля" Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# На выставе паказваюць каляндарыкі

ВІЛЕЙКА

Ад 27 кастрычніка да 3 лістапада ў межах праекта "Тыдзень калекцыянера" Вілейскі краязнаўчы музей запрашае пазнаёміцца з адным з самых старажытных вынаходніцтваў чалавецтва – календаром.

На выставе "Філатаймія" прадстаўляюць вялікія і кішэнныя календары з прыватнай калекцыі **Алены Стрэж** і фондаў краязнаўчага музея. Пабачыць іх можна ў выставачнай зале імя Сілівановіча.

Слова "Філатаймія" паходзіць з грэчаскай мовы і перакладаецца як "любоў да часу". Філатаймісты часта называюць сябе захавальнікамі часу, так як па кішэнных каляндарыках лёгка прасачыць гісторыю развіцця цывілізацыі.

Філатаймія з'яўляецца дастаткова распаўсюджаным відам калекцыянавання ва ўсім свеце, асабліва ў Расіі, Беларусі, Польшчы і Іспаніі.

**Надзея АЎДЗЕЙ, навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея.**

БІБЛІЯТЭКА

# Гарадскі філіял бібліятэкі №7 пераехаў

МАЛАДЗЕЧНА

Цяпер ён знаходзіцца па адрасе: вуліца Янкі Купалы, 126.

Дабрацца можна на аўтобусе №6: трэба ехаць да канцавога прыпынку. Насупраць аддзела МНС месціцца дзевяціпавярховы інтэрнат, у будынку якога і знаходзіцца бібліятэка.

Працуе штодзень ад 11:00 да 19:00. Выхадны – субота.

Раней філіял месціўся ў завулку Пушкіна.

Тэлефон бібліятэкі: **73-04-33**

**Аддзел інфармацыі.**




Падчас дабрачыннай акцыі дзеці дзівіліся з навуковых і хімічных эксперыментаў, якія паказвала Мар'іванна. Фота Галіны СІНІЦЫ.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# Асвяжыцца навуковай газіроўкай і пазбавіцца ад дрэннага

## Прайшло дабрачыннае мерапрыемства банка

МАЛАДЗЕЧНА

**У 2008 годзе банк ВТБ першы сярод даччыных кампаній групы ВТБ далучыўся да карпаратыўнай дабрачыннай праграмы – "Свет без слёз". Яна накіраваная на дапамогу дзіцячым лячэбным установам: набыццё медыцынскага абсталявання, лекаў і расходных матэрыялаў.**

Для таго каб закупіць неабходнае абсталяванне ў дзіцячую бальніцу ў Маладзечне, банк выдзеліў 60 мільёнаў рублёў. На атрыманыя сродкі набылі шпрыцавыя помпы, кампрэсійныя інгалятары, а таксама гаспадарчы інвентар. Агульная сума, якую банк ужо выдаткаваў падчас дабрачыннай праграмы, – больш за 750 мільёнаў рублёў.

Дапамогу атрымалі 15 устаноў аховы здароўя ў розных гарадах. Сярод іх Мінск, Гродна, Магілёў, Гомель, Віцебск, Брэст, Мазыр і іншыя. 27 кастрычніка дабрачынная акцыя завітала і ў Маладзечна.

### Лячыцеся не толькі лекамі, але і станоўчымі эмоцыямі

Арганізатары мерапрыемства выдатна разумеюць, што дзецям для выздараўлення патрэбныя не толькі лекі і добры догляд, але і станоўчыя эмоцыі. Таму ў кожнай медыцынскай установе, якой дапамагае банк, арганізоўваe забаўляльную праграму.

У маладзечанскай дзіцячай бальніцы дзяцей чакалі хімічныя і навуковыя доследы Мар'іванны.

Але перш, чым мерапрыемства пачалося, дзяцей забаўлялі дактары – яны загадвалі ім лагічныя загадкі. Прапануем некалькі іх вам:

1. Дзе вада стаіць слупам?
2. За чым вада ў шклянцы?
3. Што будзе з хусткай, якую акунуць у Чорнае мора?
4. Ехаў купец, еў салёны агурок, адну палавінку з'еў, а другую каму аддаў?

Калі вы не зможаце адгадаць іх, пішыце, паспрабуем знайсці адказы разам. Дзеці ж рашалі гэтыя задачкі, як арэхі. Калі адказы гучалі няправільныя, дактары супакойвалі – любая думка мае права на існаванне, асабліва тая, калі яе можна даказаць.

Пасля невялікай разумовай трэніроўкі дзеці дачакаліся незвычайнага хімічнага шоу. Прывядзём некалькі доследаў, якія яны ўбачылі.

**Дослед 1. Атрымаць рэакцыю кіпення**

Перш чым паказваць эксперымент, "хімік з доследам" пачала высвятляць, наколькі дасведчаныя дзеці ў пытаннях цудаў. Лёгкія, накшталт, ці можна зрабіць лёд з вады, чаю, кампоту альбо супу, выклікалі ўсмешку ў дзяцей.

Больш складаным падалося пытанне, ці можна лёд атрымаць з паветра. Аднак і з ім дзеці справіліся – атрымаецца лёд, але сухі. Некаторыя нават ведалі, што гэты лёд мае тэмпературу мінус 78 градусаў. Незвычайная халоднасць лёду не спужала дзяцей, многія захацелі пакаштаваць яго.

Толькі пасля невялічкай праверкі Мар'іванна пачала эксперымент. У колбу з цёплай вадой дадала сухі лёд – пачала ісці пара. Чым больш лёду дадавалі, тым большай яна станавілася. Атрымалася рэакцыя, падобная на кіпенне – бурленне без кіпячэння. Вядучая расказала і пра тонкасць доследу – чым цяплейшая вада, тым хутчэй ідзе рэакцыя. А пара ідзе ўніз, бо вуглякіслы газ цяжэйшы за паветра.

**Дослед 2. Зрабіць навуковую газіроўку**

Для гэтага доследу прафесар ўзяла колбу, падобную на чайнік, ваду і сухі лёд. У колбу з вадой яна насыпала сухога лёду. Калі закрыла яе, з невялічкай дзірачкі пачала ісці газіроўка, больш падобная на пару, але халодную. Ёй маглі "асвяжыцца" ахвотныя. Першай незвычайны напой пакаштавала прафесар, дзецям ён таксама прыйшоўся даспадобы.

**Дослед 3. Выстраліць коркам**

У чайнічак з вадой прафесар дадала сухі лёд. На вялікую адтуліну ў прабірцы, падобную на чайнік, надзела корак. Носік застаўся адкрытым. Аказалася, калі з сілай націскаць на яго – корак адлятае ўверх.

Дослед настолькі спадабаўся дзецям, што яны прасілі паўтарыць яго некалькі разоў. Пры гэтым можна было рэгуляваць, наколькі высока паляціць корак уверх.

### Негатыўнае ператварылі ў жвачку

Падчас мерапрыемства дзеці маглі ўбачыць, як вылятае джын з прабіркі, зрабіць змяю, выліць на галаву прафесара кубак з вадой.

Пры дапамозе Мар'іванны дзеці з асаблівым энтузіязмам пачалі пазбаўляцца ад дрэннага ў сваім жыцці. Яны назвалі негатыўнае, "прафесар-хімік" запісвала гэта на дошчачку. Сярод запісанага было: пазбавіцца ад хвароб, ляноты, суму, дрэнных адзнак – асабліва ад "калоў", "двоек", "троек". Пасля дошчачку з негатыўным прафесар знішчыла хімічным спосабам, яна стала падобная на жвачку.

Дзеці паверылі ў тое, што з гэтага моманту іх жыццё будзе значна лепшым, і самі будуць прыкладаць для гэтага намаганні.

Дабрачынная акцыя не толькі дапамагла дзіцячай бальніцы матэрыяльна, але і дзецям паверыць у незвычайнае, у тое, што казка і рэальнасць ходзяць побач. Усмешкі дзяцей былі лепшымі сведкамі, што з хваробай можна змагацца не толькі лекамі, але і весялосцю.



**Галіна СІНІЦА**
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92

# кампазітара, яржаўнага дзеяча

Партрэт Франсуа Ксаўе Фабра

...нскі. Завяршаецца 2015 год – год 250-годдзя ад яго нараджэння.

## 12 фактаў пра Агінскага

МАЛАДЗЕЧНА

**На мінулым тыдні ў Маладзечне прайшла Міжнародная канферэнцыя па М. К. Агінскім. 21 кастрычніка адбылося адкрыццё канферэнцыі, пленарнае пасяджэнне і праца секцый.**

Падчас працы секцый выступоўцы ўзгадвалі вядомыя і малавядомыя факты з жыцця нашага земляка. Вашай увазе – самыя цікавыя з іх.



Фота wikimedia.org

**1. Двойчы браўся шлюбам.**

З першай жонкай **Ізабэлай Ласоцкай** (на фота) Агінскі вырашыў развесціся. Гэта падзея выклікала шмат абмеркаванняў і плётак у яго асяроддзі.

На другі шлюб з італьянкай **Марыяй Неры** Агінскі атрымоўвае дазвол біскупа.

**2. У завяшчанні Агінскі падзяліў усю маёмасць пароўну паміж дзецьмі ад абодвух шлюбаў.**

І толькі маёнтак у Залессі пакінуў жонцы Марыі Неры, які пасля яе смерці павінны быў перайсці сыну **Ірэнею**. Але ён мусіў сплаціць па 400 000 злотых кампенсацыі астатнім дзецям, сваім братам і сёстрам.

Пра гэта ў сваім дакладзе "Перамогі і няўдачы прыватнага жыцця Міхала Клеафаса Агінскага" расказала **Рамуне Шмігельскітэ-Стукене**, загадчыца аддзела гісторыі Вялікага Княства Літоўскага Літоўскага інстытута гісторыі Літвы.

**3. Сакратар Агінскага Леанард Ходзька перапісваўся з Віктарам Гюго.**

**4. Фамільны герб роду Ходзькаў – срэбная страла на чырвоным полі.**

Паходзіў сакратар Агінскага са знакамітага роду Ходзькаў. Прозвішча роду даў князь Віцень – за тое, што баярын вынес яго хуткай хадой з поля бою.

**5. Леанард Ходзька замовіў цудадзейны абраз Святога Роха для касцёла ў Аборку.**

Пра гэта дакладаў **Валер Бурэнь** – кіраўнік аддзела краязнаўства, гісторыі і турызму фонду "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага". Яго даклад называўся "Леанард Ходзька – "наш чалавек у Парыжы".

**6. Цяпер жывуць каля 150 нашчадкаў Агінскага. Сёмае пакаленне нарадзілася ў 2000-х гадах.**

**7. Ні адзін з нашчадкаў не носіць прозвішча Агінскі.**

**8. Дачка Агінскага Амелія выйшла замуж у 21 год. У яе нарадзілася 11 дзяцей. Двое з іх памерлі ў малым узросце.**

**9. Усе чатыры дачкі Амеліі былі замужам і далі працяг яе роду.**

Пра гэта расказала **Тацціяна Кляшчонак**, навуковы супрацоўнік музея-сядзібы М.К. Агінскага ў Залессі ў дакладзе "Жанчыны роду Агінскіх".

**10. У 2011 годзе ў Гродне адну з вуліц назвалі імем М. К. Агінскага.**

**11. У 1991 годзе было прапанавана гімн Беларусі зрабіць на музыку паланэза "Развітанне з Радзімай".**

Расказваў **Міхаіл Скварцоў**, член міжнароднай канфедэрацыі журналістаў, у дакладзе "Каштоўнасці ў жыцці М.К. Агінскага".

**12. Сёння ў фонд "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага" уваходзяць 270 чалавек.**

З гэтага пачаў свой даклад заснавальнік фонду **Уладзімір Сівуха.**

### "З Ушы зробім Венецыю, а з Аборка – шэдэўр"

Падчас свайго даклада Уладзімір Леанідавіч распавёў, што ім распрацаваны ўнікальны стратэгічны план, згодна з якім плануецца адрадзіць замчышча роду Агінскіх. Акрамя таго, на месцы замчышча плануецца стварыць інфраструктуру: гасцініцу, рэстаран, кафэ, мастацкую галерэю, аранжарэю, старадаўні дворык, парк, сад, сажалку.

На месцы замчышча, згодна з планам Уладзіміра Сівухі, з'явіцца турыстычны забаўляльны цэнтр, музей замкавай культуры і многае іншае.

За два гады да юбілейнага года "Рэгіянальная газета" размаўляла з Уладзімірам Сівухам (№15 ад 12 красавіка 2015 года).

Тады на пытанне карэспандэнта, які лёс чакае замчышча, Уладзімір быў катэгарычным:

– Тут мусіць быць гасцініца, арганізаванае харчаванне, забаўляльныя цэнтры, у тым ліку дзіцячыя. Мы хочам арганізаваць пляцоўку для творчых людзей, каб паэтам, мастакам было дзе ладзіць сустрэчы, праводзіць пленэры.

... Я хачу адысці ад скульптур і іншых традыцыйных форм. Бачу гэта так: чалавек ідзе па алеі, а побач з ім успыхваюць галаграмы вядомых людзей.

**– Што з гэтых планаў рэальна здзейсніць да 2015 года?**

– Мы можам паспець стварыць гэты комплекс.

Але і сёння, праз тры гады, гэтыя планы можна ўбачыць пакуль толькі на паперы.

**Наталля ТУР.**

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## "Маладзечна ДЮСШ-4" саступае мінскаму "Тарпеда" і апынаецца на 4 месцы

МАЛАДЗЕЧНА

Гульня 23 тура чэмпіянату краіны па футболе ў Другой лізе не прынесла маладзечанскай камандзе запаветных ачкоў. Каманда **Аляксандра Гармазы** саступілі мінчанам з лікам 0:2.

– Першы тайм мы выдаўся досыць сухім, сапернікі гулялі ад абароны. Было відаць, што прайграваць у гэты дзень ніхто не збіраецца. Першы тайм так і скончыўся нулямі на табло, – піша сайт каманды "Тарпеда".

Лік матча на 72 хвіліне адкрыў гулец мінскага "Тарпеда" **Арцём Бажко.**

– Маладзечна пабегла адыгрывацца і мела некалькі шанцаў выраўнаць гульню, але мяч не трапляў у вароты. Пад канец гульні **Аляксандр Станкевіч** перахоплівае мяч у цэнтры поля, аддае пас **Аляксею Мазаніку**, і той на 89 хвіліне робіць лік канчатковым 2-0, – падсумоўваецца на сайце "Тарпеда".

Такім чынам, "Тарпеда" займае першы радок турнірнай табліцы з 21 ачком. Маладзечанцы перад апошнімі трыма гульнямі займаюць чацверты радок з 17 ачкамі.

У суботу, 31 кастрычніка, "Маладзечна ДЮСШ-4" сустрэнецца з камандай з Узды, якая цяпер ідзе на другім месцы ( 19 ачкоў).

Гульня адбудзецца на гарадскім стадыёне.

Аддзел інфармацыі.

● НАВІНЫ

## Смаргонская "Вілія" дагнала лідара

СМАРГОНЬ

"Вілія" са Смаргоні 22 кастрычніка ў чэмпіянаце Гродзенскай вобласці па футболе гуляла ў гасцях са "Зменай" з Ваўкавыска. Смаргонцы выйгралі 2:0.

"Вілія" дагнала па набраных ачках лідара чэмпіянату, ФСК "Гродзенскі". Усё можа вырашыцца ў матчах апошняга тура, расказаў гулец "Віліі" **Віталь Будай**.

## "Ашмяны" прапусцілі чатыры галы

АШМЯНЫ

ФК "Ашмяны" ў гасцях 24 кастрычніка сустракаўся з мінскім "Праменем". Ашмянцы прайгралі 0:4.

"Ашмяны" засталіся на пятым месцы ў фінальнай частцы чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе.

Аддзел інфармацыі.

● ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ

# "Калі ты не знакаміты спартсмен, лепш купі грэчку"

**Спартыўнае харчаванне апошнім часам набірае ўсё большую папулярнасць. У рэгіёне з'яўляюцца крамы па яго продажы. Маладыя людзі хваляцца тым, што яго ўжываюць. Што такое спартыўнае харчаванне і як яго ўжываць, запыталіся мы ў спартсменаў, прадаўца спартыўнага харчавання і доктара-дыетолага.**

Расказвае паўэрліфтар з Маладзечна **Арцём Валынец**:

– Без пратэіну я магу абысціся, мне дастаткова яго ў звычайнай ежы, але пэўнае спартыўнае харчаванне ўсё ж ужываю. Але я студэнт і не магу сабе дазволіць увесь час яго набываць – яно вельмі дарагое.

**8 порцый (на чатыры дні) гейнера каштуе каля 800 тысяч рублёў.**

Арцём упэўнены, што калі правільна скласці сабе рэжым харчавання, брацьб на працу ці вучобу кантэйнеры з ядой, то без спартыўнага харчавання можна абысціся.

– Гэта харчаванне для гультаёў, я б так сказаў. Для тых, хто лянуецца сабе прыгатаваць ежу, багатую на бялок. А пратэін у чыстым выглядзе патрэбны больш для спартсменаў высокага ўзроўню, калі ідзе барацьба за кожны кілаграм лішняй вагі. Да таго ж, у такіх спартсменаў ёсць спонсары. Варта адзначыць, што пратэін – гэта ўсяго толькі дадатак, які ніяк не заменіць ежу. А калі вы проста ходзіце ў спартыўную залу для сябе, то танней будзе закупіць курыных грудак і грэчкі.

### Калі да нас прыходзяць дзеці, я раю ім есці кашу

**Руслан**, гаспадар крамы спартыўнага харчавання:

– Ведалі б вы, з якой колькасцю міфаў даводзіцца змагацца, калі тлумачу новым пакупнікам, што такое спартыўнае харчаванне.

Самыя распаўсюджаныя з іх гэта:

- спартыўнае харчаванне – гэта не біялагічныя дадаткі, гэта канцэнтраваная ежа. І спецыяльнага дазволу доктара на яго не трэба. Вядома, калі няма іншых праблем са здароўем;
- прывыкання спартыўнае харчаванне не выклікае;
- нельга зрабіць фігуру мары, ужываючы толькі спартыўнае харчаванне.

У краму да Руслана прыходзяць пераважна маладыя людзі ад 18 да 27 гадоў.

**– Бывае, што прыходзяць дзеці па 12-15 гадоў. У такім выпадку я заўсёды раю ім налягаць на кашы.**

Самае папулярнае пытанне, якое задаюць Руслану пакупнікі, – колькі кілаграмаў я набяру, з'еўшы ўпакоўку пратэіну.

– На што я адказваю, што ад ужывання такога харчавання майка на цягліцах не разарвецца. Ну, не бывае так, каб схуднець ці набраць вагу да вяселля, да лета. Каб бачыць вынік – гэта павінна стаць ладам жыцця. І спартыўнае харчаванне толькі тады можа быць карысным.

Мяне здзіўляе, наколькі цяпер наведванне спартыўных залаў стала папулярным. Але мне здаецца, што калі прыбраць адтуль люстэркі, залы апусцеюць напалову.

**– Ці бываюць незадаволеныя пакупнікі?**

– Бывала, скардзіліся, што пратэін не працуе. А як ён будзе працаваць, калі ты днём п'еш пратэін, а затым усю ноч тусуешся ў начным клубе.

### Без фізічнай нагрузкі спартыўнае харчаванне толькі трата грошай

Маладзечанка **Вольга Стрэльскіх**, сталая наведніца трэнажорных залаў:

– Звычайнаму чалавеку, які ходзіць у залу для падтрымання формы і тонусу, гэта харчаванне неабавязковае, бо ўсе патрэбныя кампаненты, якія змяшчаюцца ў пратэіне і іншым спартыўным харчаванні, утрымліваюцца ў звычайных прадуктах харчавання: яйках, мясе, арэхах, бананах.

Без спартыўнага харчавання не абысціся тым людзям, якія прафесійна займаюцца бодзібілдынгам, бо на такіх сабарніцтвах ацэньваецца менавіта прыгажосць мышцаў, трэніраванага цела, – лічыць Вольга.

Пры правільным сумяшчэнні рэжыму харчавання, сну і трэніровак, гэта дае той самы патрэбны вынік.

– Я прымала сыроватачны пратэін, пратэін з L-карнітынам, пратэінавыя батончыкі. Прызнацца шчыра, я не асабліва ўбачыла іх дзеянне. Можа, і была нейкая карысць, але я правільна харчавалася, у мяне былі рэгулярныя трэніроўкі і рэжым, то вылучыць менавіта карысць спартыўнага харчавання вельмі цяжка. Спартыўнае харчаванне без разумнага спажывання і, галоўнае, без фізічнай нагрузкі нічога не дае, акрамя фінансавых выдаткаў. Мышцы не вырастуць, калі не трэніравацца, колькі б ты пратэіну ні з'еў.

### Арганізм эксперыментаў над сабой не даруе

Лічыць доктар-дыетолаг Смаргонскай цэнтральнай раённай бальніцы **Ганна Баран.**

– Я лічу, што такое харчаванне добрае толькі для спартсменаў, якія працуюць з уласнымі дактарамі і якія дакладна ведаюць, чаго не хапае іх арганізму. Вельмі просты прыклад: 70-кілаграмоваму цяжкаатлету ў суткі патрабуецца 170 грамаў бялку. Вядома, адной ежай гэту норму не набярэш, спартсмену трэба нейкая знешняя крыніца. Ім у дапамогу якраз і трэба дадатковы бялок.

Усім тым, хто марыць аб ідэальным целе, Ганна Уладзіміраўна спачатку раіць звярнуцца да доктара.

– У любым выпадку, толькі прафесіянал ведае, якая норма пратэіну вам патрэбная. Адзінае, што магу сказаць, што

**Ад празмернага ўжывання бялку павялічваецца печань. Парушаецца абмен рэчываў. Можа развіцца мочакаменная хвароба. Адбываецца мінеральны дысбаланс – косці становяцца крохкімі.**

А наконт таго, што падлеткі хочуць пры дапамозе спартыўнага харчавання хутка набраць вагу, доктар-дыетолаг кажа:

– Адным бялком вагу не набярэш. Арганізму, які расце, трэба і вітаміны, і тлушч. Не трэба ставіць над сваім арганізмам эксперыментаў. Ён гэтага вам не даруе.



**Даведка "РГ".**
**Пратэін** – спартыўныя дадаткі, зробленыя на аснове бялковых сумесяў. **Гейнер** – дадатак пры спартыўным харчаванні. Утрымлівае бялок і вугляводы.

Наталля ТУР.
Ілюстрацыя yt3.ggpht.com.

## Камент-эксперт

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках

**У Вілейцы на вуліцы ў жанчыны выхапілі з рук пакет з грашыма і хлебам. Скралі амаль шэсць мільёнаў рублёў**

Колькі пішуць і гавораць... Нельга кашалёк класці ў торбу... ці пакет. Лепш ва ўнутраную кішэню!!! ***Алег.***

**Каб пачаць жыць, трэба прачнуцца. 25 сезон Мінскага абласнога драматычнага тэатра адкрыла прэм'ера "Дзядзечкаў сон" (Фота)**

Маладзечанскі тэатр адзін з лепшых. Акцёры такія, што ім можна сказаць толькі "Веру!" Дзякуй ім. ***Алена.***

**Будуць судзіць кіроўцу, які наехаў на 12-гадовую дзяўчынку ў Маладзечне і ўцёк (Фота)**

З дзяўчынкай, дзякуй Богу, усё добра цяпер! Ходзіць у школу :) Дзякуй за Вашу неабыякавасць. ***Алена.***

● РЭПЕРТУАРЫ

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

"**Всё будет хороШОУ!**" (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне), *Алег Чэчанеў*
12 лістапада, чацвер, – у 11:30

ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ

"**На другі дзень Сёмухі**" (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы), *Юры Вута*
5 лістапада, чацвер, – у 19:00

"**Месье з рагамі, мадам з вусамі**" (вадэвільная гісторыя ў 2-х дзеях), *Марсэль Берк'е-Мерыньe, Анатоль Курбскі*
10 лістапада, аўторак, – у 19:00

"**№13**" (камедыя ў 2-х дзеях), *Рэй Куні*
13 лістапада, пятніца, – у 19:00

"**Банкет**" (сентыментальная камедыя), *Ніл Сайман*
18 лістапада, серада, – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Дзядзечкаў сон**" (камедыя мардасаўскіх нораваў), Фёдар Дастаеўскі
20 лістапада, пятніца, – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

"**Церамок**" (вясёлая казка), С.Маршак (рус. мова)
1 лістапада – у 12:00

"**Васіліса прыгажуня**" (чарадзейная казка), К.Чарняк (рус.мова)
8 лістапада – у 12:00

"**Чырвоная шапачка**" (добрая казка), *Я.Шварц* (рус.мова)
15 лістапада – у 12:00

"**Цалёвачка**" (музычная казка), *Ю.Шчуцкі*
22 лістапада – у 12:00

"**Казка пра цара Салтана**" (казка-паэма), А.Пушкін (рус. мова)
29 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 9 | | | | 2 | | | |
| | | 8 | | | 7 | | 1 | 2 |
| 2 | | | | | 9 | | | |
| 9 | | | | 2 | 8 | 6 | | |
| | 5 | | | | | | 3 | |
| | | 6 | 3 | 5 | | | | 9 |
| | | | 6 | | | | | 4 |
| 4 | 3 | | 7 | | | 2 | | |
| | | | 2 | | | | 9 | 3 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

**На занятках "Мова Нанова" ў Маладзечне 27 кастрычніка. Запрошанымі гасцямі былі паляўнічы, які вывеў пароду сабак беларускі ганчак, Уладзімір Лазарэнка і бард Таццяна Беланогая. На фота злева направа: наведніцы курсаў Аляксандра Парфянюк, Ганна Кірылічава і Ганна Дземеш. Другая справа Таццяна Беланогая.**
**Курсы праходзяць у бібліятэцы "Верасок" па аўторках. Пачатак а 18 гадзіне. Тэма заняткаў 3 лістапада – "Беларускія танцы". Запрошаны госць Сяргей Доўгушаў.**

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі, камедыя "**Монстры на канікулах**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
30 кастрычніка – у 14:20
31 кастрычніка – у 17:20
1, 2, 3, 4 лістапада – у 17:00
Цана білета: 30 000-50 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, ваенны "**Крэпасць: шчытом і мячом**" (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
30 кастрычніка – у 16:20
31 кастрычніка – у 13:10
1 лістапада – у 12:50
Цана білета: 20 000-25 000 рублёў

Фэнтэзі, прыгоды, сямейны "**Пэн: Падарожжа ў Нетландыю**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
31 кастрычніка – у 15:10
1 лістапада – у 14:50
Цана білета: 30 000 рублёў

Прыгоды, фантастыка "**Марсіянін**" (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
30 кастрычніка – у 18:20
31 кастрычніка – у 19:20
2, 4 лістапада – у 19:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Трылер, драма "**Радзіма**" (Расія, 2015, пасля 18 год)
1, 3 лістапада – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Драма, крымінал, біяграфія "**Чорная імша**" (ЗША, 2015, пасля 16 год)
30 кастрычніка – у 21:00
31 кастрычніка – у 22:00
1, 3 лістапада – у 19:00
2, 4 лістапада – у 21:40
Цана білета: 45 000-50 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "Выратавальнікі" (Кітай, 2014, без узроставых абмежаванняў)
31 кастрычніка – у 14:30
1 лістапада – у 14:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Баявік, камедыя, прыгоды "**Асабліва небяспечная**" (ЗША, 2014, пасля 16 год)
30 кастрычніка – у 19:30
31 кастрычніка – у 17:00
31 кастрычніка, 2 лістапада – у 21:00
1 лістапада – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Драма "**Апошняя ноч**" (Расія, 2015, пасля 18 год)
30 кастрычніка – у 17:30 і ў 21:30
31 кастрычніка – у 19:00
1 лістапада – у 16:30 і ў 21:00
2 лістапада – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**
**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Трылер "**Небяспечнае апусканне**" (Вялікабрытанія, пасля 16 год).
30 кастрычніка – у 18:00
31 кастрычніка – у 17:30
1 лістапада – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Крымінальны баявік. "**Нястрымны**" (ЗША, пасля 16 год)
30 кастрычніка – у 20:00
31 кастрычніка – у 19:30
1 лістапада – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Кінадзяцінства: Маша і мядзведзь: Цяжка быць маленькім**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
31 кастрычніка, 1 лістапада – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, прыгоды "**Крэпасць: шчытом і мячом**" (2D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
30 кастрычніка – у 13:00
Цана білета: 20 000 рублёў
1 лістапада – у 12:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі "**Монстры на канікулах 2**" (3D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
30 кастрычніка – у 15:00
31 кастрычніка – у 14:30, 16:30
1 лістапада – у 14:00, 16:00
Цана білета: 30 000 рублёў
30 кастрычніка – у 17:00
Цана білета: 50 000 рублёў

Баявік, драма, крымінал "**Чорная імша**" (2D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
30 кастрычніка – у 19:00
31 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Трылер, драма "**Прагулка**" (3D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
30 кастрычніка – у 21:20
31 кастрычніка – у 18:30
1 лістапада – у 20:40
Цана білета: 55 000 рублёў

Сямейны, фэнтэзі, прыгоды "**Пэн: Падарожжа ў Нетландыю**" (3D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
31 кастрычніка – у 12:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды "**Марсіянін**" (3D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
1 лістапада – у 18:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Тэл. **8(01771) 5-68-59**

● ГАРАСКОП
30/10 - 5/11/2015

**Авен.** Пры вырашэнні важных пытанняў не спяшайцеся, бо над якім бы вы пытаннем ні ламалі галаву, памятайце: першае рашэнне, якое здаецца відавочна правільным, на самой справе будзе памылковым. Таму абдумайце сітуацыю, прыміце да ведама дробныя дэталі.

**Цялец.** Памятайце, калі Месяц убывае, то не варта распачынаць новыя справы. А менавіта цяпер ён на зыходзе. А яшчэ зоркі раяць чаргаваць актыўнасць і адпачынак, гэта важна для вашага здароўя.

**Блізняты.** У любую справу дадавайце разлік і не дазваляйце нікому ўмешвацца ў ваша ўласнае жыццё.

**Рак.** Вялікае задавальненне і душэўны пад'ём прынясе час, праведзены з дзецьмі. Да таго ж вы адчуеце прыліў сіл і энергіі, таму плённа папрацуеце і паспееце нашмат больш, чым звычайна.

**Леў.** Каб аднавіць растрачаныя сілы, варта паназіраць за рыбкамі ў акварыуме.

**Дзева.** Не выпрабоўвайце лёс – усё ідзе, як трэба. Сканцэнтруйцеся на праблемах сям'і, а фінансавыя і іншыя пытанні будуць вырашацца практычна без вашага ўдзелу.

**Шалі.** Вы шмат клапоціцеся пра іншых, але забываеце пра сябе. З-за гэтага ў вас дэпрэсіі, дрэнны настрой, стомленасць. А вы ж для сябе самы галоўны чалавек. І любіць сябе вы павінны больш за ўсіх. Толькі тады ў вас буду сілы на іншых.

**Скарпіён.** На вас нойдзе нейкая нястрыманасць, ад чаго вы рызыкуеце сапсаваць адносіны нават з лепшым сябрам. Трымайце свае крыўдныя выказванні пры сабе.

**Стралец.** У спрэчных сітуацыях прыслухоўвайцеся да ўласнай інтуіцыі, яна не падвядзе вас ні сёння, ні заўтра.

**Казярог.** Любыя адносіны – гэта кампраміс. І цяпер вы гэта добра адчуеце. Калі вы не разгубіцеся і скарыстаецеся момантам, то будзеце ўзнагароджаныя з лішкам.

**Вадалей.** Не адмаўляйце сабе ні ў чым – прыйшоў ваш час. А выхадныя прысвяціце адпачынку. Хатнія справы, вядома, таксама рабіць трэба, але яны пачакаюць.

**Рыбы.** Пачатак тыдня не на жарт можа сапсаваць вам настрой. Але не засмучайцеся, таму што далей усё будзе складвацца як найлепш.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**


ISSN 1991–7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27


Камент-эксперт

Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, паслаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail regionnews@rh.by або пакінь каментар на Rh.by

● НАДВОР'Е

## 31 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -2 / +2 | | -2 / 0 | | +3 / +7 | | +6 / +6 | |
| | 755 | ↖ 3 | 760 | ↑ 3 | 751 | ↗ 6 | 747 | → 5 |
| Вільня | -1 / +6 | | -1 / +3 | | +3 / +9 | | +7 / +7 | |
| | 763 | ↖ 2 | 768 | ↑ 4 | 758 | ↗ 6 | 756 | → 6 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, заход па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 8.12
Заход 17.40
Даўжыня дня 9.28

Усход 21.07
Заход 12.24
Квадра 3




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -12,4 °С у 1956 годзе
Максімальная тэмпература +13,4 °С у 2000 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 16,1 мм у 1989 годзе
Назіранні за 60 год. Паводле meteoinfo.by

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Ці ведаеце вы сваіх продкаў?



**Яўген Мычко, гандлёвы прадстаўнік:**
– Пра продкаў мне расказвала прабабуля. У яе было царскае прозвішча Раманава, нарадзілася ў 19 стагоддзі і памерла амаль у сто гадоў. Расказала цікавы факт пра тое, што прадзядулю бралі пяць разоў у палон і пяць разоў у яго атрымлівалася збегчы. Мінулае вучыць нас не рабіць памылкі, якія былі раней.



**Галіна Чункевіч, пенсіянерка:**
– Ведаю пра бабуль, дзядуль. Але б хацелася ведаць значна больш пра свае карані. Калі дзеці і ўнукі цікавяцца гісторыяй нашай сям'і, расказваю ім. Абавязкова ходзім на магілкі да сваіх продкаў, узгадваем іх на Дзяды.



**Наталля Шырко, навучэнка:**
– Ведаю продкаў да трэцяга калена. Напрыклад, мае бабуля і дзядуля жылі ў вёсцы, трымалі карову, мелі вялікую гаспадарку. Мне заўсёды было цікава паслухаць, як яны паспявалі ўсё дагледзець. Мы павінны ведаць гісторыю, бо на ёй трымаецца і сучаснасць, і будучыня.



**Наталля Кішкурна, аператар:**
– Цікавілася сваімі каранямі, таму ведаю продкаў да чацвертага калена. Калі адзначаем Дзяды, то ўзгадваем пра мінулае, памерлых сваякоў. Мая дачка маленькая, але таксама цікавіцца мінулым нашай сям'і.



**Аксана Баланчук, у дэкрэтным адпачынку:**
– Да чацвертага калена. Пра іх мне расказвала бабуля. Мару знайсці ў архіве звесткі пра маіх продкаў, іх жыццё. Пакуль не хапае часу.

Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.

## Чытайце праз тыдзень:

- Якія пытанні з'яўляюцца няправільнымі да спецыялістаў, якія робяць мэблю на заказ. На чым можна зэканоміць і якімі крытэрыямі карыстацца пры выбары мэблі. Выбіраць моднае альбо практычнае – высвятляем разам са спецыялістам.




Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№44 (1070) 30.10.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1382 . Падпісана ў друк у 9.00 29.10.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.